# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### ХРОНІКА.

— „Цантральная Беларуская Школьная Рада гэтым абвяшчае сяброу Таварыства Беларускае Школы, што ёю склікаецца агульны сход сяброу Т-ва на 1-е лістапада (чацьвер) 1923 г. у г. Вільні, у памешканьні Школьнай Рады (Віленская № 12), а 11 гадзіне дня.

Калі на азначаную гадзіну не зьбярэцца устаноулены лік сяброу, сход адкрыецца на 1 гадзіну пазьней і будзе лічыцца правамоцным бяз увагі на лік прыбыушых на гэтую гадзіну сяброу (§ 34 статуту Т-ва)“.

Віцэ-Старшыня **Антон Луцкевіч**.

За Сэкрэтара **А. Грыневіч**.

**„Вольны Сьцяг“ зачынены.** Рэдакцыя „Вольнага Сьцягу“ атрымала паведамленьне ад Камісара ўраду г. Вільні гэткага зьместу:

„Гэтым паведамляю, што пастановай Акружнага Суду з 11 Х. г. г. зацьверджаны арышт наложаны на № 17 часопісі „Вольны Сьцяг“ і выдавецтва зачынена да часу судовай расправы, па абвінавачаньню рэдактара тэй-жа газэты па 129 і 263 арт. К. К.“

(—) Вімбор
Камісар Ураду г. Вільні.

Рэдактар зачыненай ужо газэты „Новае Жыцьцё“ Язэп Лагіновіч атрымаў акт абвінавачаньня ў тым, што ў № 10 гэтай газэты зьмесьціў артыкулы „Без зямлі і волі“, „Як ратавацца“, „Беларускі Клюб у Польскім Сойме“ і „Першага мая ў Горадні“, у якіх пракуратура ўбачыла падбураньне чытачоў да ненавісьці паміж паасобнымі часткамі мясцовай люднасьці і заклік да клясавай барацьбы ў спосаб абражаючы павагу дзяржаўнай улады. (арт. 129 ч. 6 і 154 ч. 2 Код. Кар.)

Вышла з друку і прадаецца ў Беларускай Кнігарні „Пабрацімцы і Вялікая Шышка“—1-ая часьць повесьці „Вар'ят без вар'яцтва“ Язэпа Нарцызава, выдадзена „Віленскім выдавецтвам“ Б. А. Клецкіна.

### Весткі з вёскі.

**М-ка Ікажна**, Дзісенскага павету.

У нядзелю 30 верасьня загадаў солтыс сабірацца на сход. Хоць ня крэпка цікавяцца людзі цяперашнімі сходамі, аднак-жа крышку сабралася. Вось выступае солтыс і кажа, каб рыхтавалі маркі па 12 тысячаў ад дзесяціны, а трэба заплаціць да першага кастрычніка, гэта значыцца праз 7 гадзін, бо цяпер 5 гадзіна вечара 30 верасьня. Апрача ад дзесяціны трэба заплаціць ад кожнай каровы, каня па 20 тысячаў ды яшчэ ад чагось, ня лёгка і пералічыць. Скончыў солтыс, пачынае войт: „Нясеце, грамадзяне, на ахвяру золата, серабро, дарагакаштоўныя камяньні, тады нам лягчэй будзе жыць“. Людзі слухаюць, ці скора скончыцца. Аж яшчэ не. Пасьля войта зьявіцца вучыцель польскай школы. Абвяшчае, што сёлета дзеці пад прымусам павінны хадзіць у школу, а каб навука лягчэй адбывалася, трэба купіць падручнікаў (кніжак): для першагоднікаў на 79 тысячаў, а далей, што старэйшыя дзеці, то ўсё даражэй, аж нарэшце для 5-га аддзелу на 500 з чымсь тысячаў. Гэта выходзіць, што хто мае ў школе па дзяцёнку ў 3-х старэйшых аддзелах, мусіць купіць падручнікаў больш як на мільён марак.

Людзі слухаюць ды толькі плячыма паціскаюць. Адкуль што бралася? Выходзіць, што селянін мае толькі тры абавязкі: 1-шы плаціць, 2-гі плаціць і 3-ці плаціць. А ці многа-ж мае ён правоў?

Адносіны ікажэнцаў да асьветы гэткія: разумеюць добра значэньне навукі, хацелі-б, каб дзеці сталі выадукаванымі грамадзянамі. На жаль, цяперашнія варункі зачыняюць усялякую мажлівасьць даць дзецям належную адукацыю. Першая прычына,—гэта агульная беднота і дарагоўля ўтрымліваньня вучня. Друга—адсутнасьць навукі ў школах на роднай мове. Есьць тут польская школа, толькі яна не дае народу ані якай карысьці. Дзеці нічога ня могуць навучыцца ў ёй, бо да іх гукаюць ў школе толькі папольску. Ведама, вучань ці вучаніца толькі час дарма трацяць і прывучаюцца глядзець на навуку, як на нешта прыкрае і непатрэбнае. Народ разумее гэта і неахвотна аддае ў школу дзяцей. Не памагае і школьны прымус. Значная частка дужа хоча беларускай школы, бо там навука адбывалася-б ў зразумелай мове. Летась было пададзена да інспэктара прашэньне, каб адчыніць ў Ікажні беларускую школу, толькі інспэктар загадаў прасіць не яго, а куратара. Тут прашкодзіла адна ўласьцівасьць нашага ікажэнца, каторая высказваецца ў прыгаворцы: „Пусьці, павалюся“. Само, ведама, нічога ня робіцца, трэба клапатаў, бяз гэтага не абойдзешся ніяк. Вось і трэба як найхутчэй сабрацца на сход і пісаць ізноў прашэньне аб беларускай школе. Адчыніць мусяць, бо ніхто ня мае права забараніць вучыць дзяцей у роднай мове. Аднак-жа, лічацца толькі з дужымі. Вось і станьце дужымі духам, гэта знача, ня пужайцеся перашкодаў і тады свайго даканаеце. Варункі-ж для школы мгеце добрыя: ёсьць вольны будынак школьны, ёсьць лаўкі, трэба толькі вучыцеля.

**Андрэй Лашчэўскі.**

**В. Калінаўка**, Дунілавіцкага пав.

Цяжка, ох я цяжка нам цяпер жывецца. Але так цяжка, што ніхто ня помніць такіх кепскіх часоў. Паншчына і тая была раем у параўнаньні з нашым сучасным жыцьцём. Чуць ня кожную нядзелю прыходзіцца плаціць падаткі. Вёска наша зусім бедная. Есьць такія гаспадары, якія маюць ня болей трох дзесяціннаў зямлі. Дзеля таго, каб пражыць, многім прыходзіцца жабраваць. Дык як—то яны могуць заплаціць падаткі? Жабраніннай не набярэш. Але дагадлівы камэндант найшоў спосаб узяць падаткі. Прыехаўшы з жандармамі забраў: у Андрэя Давідовіча калёсы, у Сальвука — апошні кажух, у Якіма Давідовіча—пальто, якое ён хацеў перамяніць на хлеб, а ў Уладзімера Скуркі, не знайшоўшы нічога лепшага, забралі двое штаноў і апошняе палатно, якае матка выткала яму на вопратку. Пасьля гэтага кабеціна пайшла у гміну да войта прасіць, каб аддалі палатно, дык той высьмяяўшы яе выгнаў вон, сказаўшы, што палатно ён парэзаў сабе на нагавіцы. Дык вось якія пануюць у нас парадкі. Ты давай, а табе, нават беларускае школы не даюць.

**Мядзелец.**

## УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### З Менску.

**К скасаваньню павятовых упраўленьняў савецкіх гаспадарак.** З новага апэрацыйнага году Галоўнае Упраўленьне Савецкімі Гаспадаркамі Беларусі мае скасаваць усе павятовыя ўпраўленьні.

На паветах будуць застаўлены толькі ўпаўнамоцныя, якія будуць кантраляваць усю працу савецкіх гаспадарак і кіраваць іх тэхнічнай працай.

Скасаваньнем павятовых упраўленьняў будзе дасягнута гібкасьць усяго апарату і значнае зьмяншэньне выдаткаў.

**У Прамысловым Банку.** У апошні час сума грошай, якія выдаюцца ў Прамысловым Банку па пераводах Расейска-Амэрыканскай Акцыянэрнай Кампаніі, даходзіць да 1.000-2.000 доляраў штодня.

**Плян будаўнічых прац на 1924 год.** Прэзыдыум Менскага Гарадзкога Выканаўчага Камітэту даручыў рамонтна-будаўнічаму аддзелу ўпраўленьня нярухомай маемасьці злажыць плян будаўнічых прац на 1924 год.

У плян будуць уведзены ўсе буйныя і дробныя рамонты будынкаў і працы па адбудоўцы гораду наагул.

**Дом санітарнай асьветы.** Дом санітарнай асьветы перадаецца ад Гарадзкога Аддзелу Аховы Здароўя Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя і будзе пераведзен у цэнтр гораду ў памяшканьне б. духоўнай школы.

**Гандлёвыя апэрацыі Цэнтрабелсаюзу.** З Ніжагародскага кірмашу вярнуўся прадстаўнік Цэнтрабелсаюзу, які зрабіў умову з „Галоўрыбай“, „Масла-трэстам“, „Жыркосьцю“ і іншымі трэстамі на распаўсюджаньне іх тавараў па Беларусі. Прадстаўніцтвы вышэйпамянёных трэстаў на Беларусі будуць ліквідаваны.

З другога боку, розныя гаспадарчыя ўстановы зрабілі ўмову з Цэнтрабелсаюзам на закупку ўсяго абутковага тавару яго, які будзе выпушчаны ў працягу аднаго году.

**Да адчыненьня ўнівэрсальнага магазыну Цэнтрабелсаюзу.** У хуткім часе Цэнтрабелсаюз адчыне вялікі ўнівэрсальны магазын, для якога ўсе тавары закуплены на Ніжагародзкім кірмашы.

### З Слуцку.

Слуцак з боку пастаноўкі фізычнай культуры сярод рабочых мас стаіць пад адным з першых месцаў на Беларусі. Асабліва добра стаіць справа ў прафсаюзах, дзе ёсьць пяць спортыўных гурткоў, нядаўна арганізаваных, і з кожным днём пашыраючых сваю працу.

Адносіны да фізычнага аздараўленьня сярод рабочай моладзі вельмі добрыя.

Істнуюць гэткія спортыўныя гурткі пры саюзах 1) будаўнічых рабочых, 2) мэталістаў, 3) сав. працаўнікоў, 4) харчавікоў, 5) гарбароў. Апрача таго істнуе спорт-гурток пры Угаркоме, у Слуц. др. Ю. С. і Цэнтр. Клюбе Спорту. Усяго гэтыя спорт. арганізацыі налічваюць каля 500 сяброў.

Таксама досыць добра наладжана справа ў школах і дзіцячых дамох Слуцку.

Слабы бок справы—гэта дрэннае матар'яльнае становішча: недахват спортыўных прыладаў, памяшканьняў, спорт. вопратак. Патрэбна шырокая дапамога дзярж. установаў, і тады можна будзе чакаць вельмі добрых вынікаў, бо да гэтага часу пры вельмі дрэнных варунках працы ўдалося дабіцца досыць добрых вынікаў, з чаго відаць вялікая зацікаўленасьць рабочай моладзі фізычным разьвіцьцём.

Недахват кіраўнікоў таксама адчуваецца (ўсяго адзін кіраўнік на ўсе гурткі). Аб гэтым трэба падумаць Слуцкай радзе фізычнай культуры.

**Слуцкі.**

#### Настаўніцкі сход.

**Лагойская воласьць**, (Барысаўск. п.)

9 верасьня адбыўся сход настаўнікаў Лагойскае воласьці. Абгаварываліся пытаньні аб падрыхтоўцы і распачацьці як агульнай культурна-асьветнай працы ў воласьці і паміж сяброў прафсаюзу, так і працы школьнай. Сход пастанавіў лічыць абавязковым для кожнага настаўніка загадзя наняць памешканьне пад школу дзеля таго, што школы воласьці (апрача дзьвёх) ня маюць уласных будынкаў, парупіцца аб атрыманьні падручнікаў, высечцы дроў і інш. Дзеля таго, што праца настаўніцкіх гурткоў за летнія месяцы па розных прычынах спынілася, а таксама культурная праца значна панізілася ў хаце-чытальні і наагул па цэлай воласьці, сход пастанавіў, каб мясцком у згодзе з валкам'ячэйкай распачаў зноў культурна-асьветную працу.

На сходзе была адзначана няпэўнасьць ува ўладаньні школамі адведзенай ім зямлёй, за якую праз увесь час ідзе папяровая вайна паміж валасным выканаўчым камітэтам, УОНО і УЗУ, дзеля чаго зямля часта пераходзе ад аднаго гаспадара школы да другога і наадварот па некалькі раз, і ўрэшце некаторыя настаўнікі ня ведаюць, мае школа зямлю ці не. Сход пастанавіў праз валасны выканаўчы камітэт пытаньне выясьніць і замацаваць землі за школамі.

**В. С.**

#### Аблава на ваўкоў.

(**Лагойская вол.**, Барыс. пав.).

У гэтым годзе расплодзілася многа ваўкоў, якія прынесьлі многа шкоды сялянам, зьнішчыўшы некалькі авечак, сьвіней і інш., залязаючы ў двары і хлявы. Сяляне зьвярнуліся да мясцовага саюзу паляўнічых дапамагчы ім і збавіць ад зьвяроў.

8 верасьня была зроблена аблава. Тры ваўкі забіты.

Трэба аблавы рабіць і надалей, а то ваўкі шмат пашкодзяць сельскім гаспадаром.

**С.**

## Усячына.

**Загадваюць „прасаваць“ маркі.**

„Robotnik“ у № 275 прыводзіць гэткае цікавае здарэньне.

Да цэнтральнае Польскае Касы Ашчаднасьці ў Варшаве прышла адна з кіраўнічак пачатковых школаў і прынясла для перасылкі на дапамогу японскім дзяцям 519.400 мк. п., сабраных праз вучняў школы. Гэта былі дробныя ахвяры па 10, 5, 1, тысячы марак і некалькі сотняў, уложаных у пакеты. Урадовец адмовіўся прыняць.

— Пагнеценыя,—тлумачыў ён.
— Гэткія атрымала-апраўдвалася вучыцелька.
— Дык трэба было адпрасаваць...
— Як?
— Звычайна: узяць гарачае жалязка, прасаваць штука за штукаю і роўна складаць,—растлумачыў урадовец.

Так і ня прыняў грошаў.

Выдавец К. Каліноўскі. Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.